

# Голас душы



Яднанне ў любові

№ 9 (193)
Субота, 4 сакавіка 2006 г.

Штотыднёвы хрысціянскі бюлетэнь

# ПАСЛАННЕ СВЯТОГА АЙЦА БЕНЕДЫКТА XVI НА ВЯЛІКІ ПОСТ

## *«Езус, убачыўшы натоўпы людзей, злітаваўся над імі»*

**Дарагія браты і сёстры!**

Вялікі пост – гэта найбольш спрыяльны час для ўнутранай пілігрымкі да Таго, хто з'яўляецца крыніцай міласэрнасці. Гэта пілігрымка па пустыні нашай убогасці, у якой Ён сам нам спадарожнічае, падтрымліваючы нас на шляху да радасці Вялікадня. Нават у «даліне смяротнага ценю», пра якую гаворыць Псальміст (*пар. Пс 23, 4*), тады, калі спакушальнік падштурхоўвае нас да роспачы або намаўляе разлічваць толькі на свае ўласныя сілы, Бог клапоціцца пра нас і ўмацоўвае.

Такім чынам, таксама сёння Пан чуе заклік натоўпаў людзей, якія прагнуць радасці, міру і любові. Як ва ўсе часы, яны адчуваюць сябе пакінутымі. Аднак нават у вялікім адчаі, які нясуць з сабою беднасць, самота, насілле і голад, што прыгнятаюць без усялякага адрознення старых, дарослых і дзяцей, Бог не дазваляе запанаваць цемры і страху. Як напісаў мой умілаваны папярэднік Ян Павел II, *існуе «боская мера, вызначаная злу», а з'яўляецца ёю міласэрнасць* (*Pamięć i tożsamość, с. 25*).

Менавіта таму напачатку гэтага паслання я змясціў евангельскі ўрывак, у якім гаворыцца як **«Езус, убачыўшы натоўпы людзей, злітаваўся над імі»** (*Мц 9, 36*). У гэтым святле я хацеў бы паразважаць над пытаннем, якое вельмі хвалюе нашых сучаснікаў, – над пытаннем развіцця. Таксама сёння Хрыстус свой поўны спачування «позірк» пастаянна скіроўвае на людзей і народы. Ён глядзіць на іх, ведаючы, што ў Божай «задуме» яны пакліканыя да збаўлення. Езус ведае небяспекі, якія пагражаюць гэтай задуме, і літуецца над натоўпамі людзей: прымае рашэнне бараніць іх ад ваўкоў нават



коштам уласнага жыцця. Гэтым позіркам Езус ахоплівае асобных людзей і народы, і ўсіх перадае Айцу, прыносячы сябе самога ў ахвяру перапрашэння.

Касцёл, асветлены гэтым пасхальным святлом, ведае, што для поўнага развіцця патрэбна, каб мераю нашага «позірку» на чалавека быў позірк Хрыста, таму што ніяк нельга аддзяліць задаволенне матэрыяльных і сацыяльных патрэбаў людзей ад задаволення глыбокіх патрэбаў сэрца.

Гэта асабліва трэба падкрэсліць у наш час вялікіх пераменаў, калі мы ўсё больш выразна і пераканаўча адчуваем, што на нас ляжыць адказнасць за бедных у свеце. Ужо мой шаноўны папярэднік Папа Павел VI трапна акрэсліваў наступствы недахопаў развіцця як прыніжэнне чалавечнасці. У гэтым сэнсе ў энцыкліцы *Populorum progressio* ён гаварыў пра «матэрыяльную беднасць тых, хто пазбаўлены пражытачнага мінімума, і пра маральную беднасць тых, хто пакутуе ад уласнага эгаізму (...), пра прыгнёт палітычных сістэмаў, пра злоўжыванне ўласнасцю і ўладаю, пра жудасную эксплуатацыю, а таксама пра несправядлівыя здзелкі» (п. 21).

Як засцерагальны сродак ад гэтых праяваў зла Павел VI рэкамендаваў не толькі «элементарную павагу да годнасці бліжняга, скіраванасць на дух убогасці, супрацоўніцтва на карысць супольнага дабра, жаданне міру», але таксама «прызнанне чалавекам найвышэйшых каштоўнасцяў і Бога як іх крыніцу і мяжу» (*там жа*). У сувязі з гэтым Папа без вагання прапаноўваў «перш за ўсё веру, дар Бога для людзей добрай волі, і еднасць у Хрыстовай любові» (*там жа*). Такім чынам, Хрыстовы «позірк» на натоўпы людзей даручае нам пацвердзіць сапраўднае значэнне гэтай «паўнаты чалавечнасці», якая, на думку Папы Паўла VI, заключаецца ў

«развіцці ўсяго чалавека і ўсіх людзей» (*там жа, 42*). Таму першым унёскам Касцёла ў развіццё асабнага чалавека і ўсіх людзей з'яўляюцца не матэрыяльныя сродкі або тэхнічныя рашэнні, а абвяшчэнне праўды Хрыста, якая фармуе сумленне і вучыць сапраўднай годнасці асобы і працы, спрыяючы фармаванню культуры, якая дае праўдзівыя адказы на ўсе пытанні чалавека.

Перад страшным выклікам, якім з'яўляецца беднасць вялікай часткі насельніцтва, абыякавасць і замкнутасць ва ўласным эгаізме недапушчальна супрацьлеглыя «позірку» Хрыста. ***Пост і міласціна, якія разам з малітвай Касцёл прапануе ў перыяд Вялікага посту, з'яўляюцца спрыяльнаю нагодаю для выпрацоўвання ў сабе гэтага Хрыстовага «позірку».***

Прыклады святых і місіянерскі вопыт, якімі багатая гісторыя Касцёла – гэта каштоўныя ўказальнікі, як лепш за ўсё падтрымліваць развіццё. Таксама сёння, у час узаемнай глабальнай залежнасці, можна прыйсці да высновы, што ніводная эканамічная, сацыяльная або палітычная праграма не заменіць гэтага дару самога сябе бліжняму, у чым выяўляецца міласэрная любоў. Чалавек, які дзейнічае паводле гэтай евангельскай логікі, перажывае веру як сяброўства з уцелаўлёным Богам і таксама, як Ён, бярэ на сябе цяжар матэрыяльных і духоўных патрэбаў бліжняга. Ён глядзіць на бліжняга як на невымерную таямніцу, што заслугоўвае бязмежнага клопату і ўвагі. Ведае, што той, хто не дае Бога, дае вельмі мала, бо, як казала благаслаўлёная маці Тэрэза Калькуцкая: **«Першая беднасць народаў – гэта няведанне Хрыста».** Таму трэба дапамагаць знаходзіць Бога ў міласэрным абліччы Хрыста: без гэтай перспектывы нельга пабудаваць цывілізацыі на моцным фундаманце.

Дзякуючы мужчынам і жанчынам, паслухмяным Духу Святому, у Касцёле ўзніклі шматлікія справы міласэрнасці, мэта якіх – дапамагаць развіццю: шпіталі, універсітэты, прафесійныя вучылішчы, малыя прадпрыемствы. Гэтыя ініцыятывы яшчэ раней за тое, што пачалі рабіць свецкія ўстановы, паказалі шчыры клопат пра чалавека з боку людзей, натхнёных евангельскім пасланнем. Гэтыя справы ўказваюць шлях, якім таксама і сёння трэба весці свет да глабалізацыі, мэтай якой будзе сапраўднае дабро чалавека і ў выніку – сапраўдны мір.

З такім самым спачуваннем, якое выклікалі ў Езуса натоўпы людзей, Касцёл таксама сёння лічыць сваім заданнем заклікаць тых, хто ажыццяўляе палітычную ўладу і мае ўплыў на гаспадарку і фінансы падтрымліваць развіццё на грунце павагі да годнасці кожнага чалавека. Важным крытэрыем для іх намаганняў стане рэальная рэлігійная свабода, разуметая не толькі як звычайная магчымасць абвяшчэння Хрыста і Яго ўшанавання, але таксама як магчымасць удзелу ў будаўніцтве свету, ажыўленага любоўю.

Сярод гэтых намаганняў павінна быць таксама рэальнае прызнанне асноўнай ролі, якую адыгрываюць у жыцці чалавека сапраўдныя рэлігійныя каштоўнасці, як адказ на яго самыя глыбокія пытанні і як этычная матывацыя яго асабістай і грамадскай адказнасці. На падставе гэтых крытэрыяў хрысціяне павінны будуць навучыцца таксама мудра ацэньваць праграмы сваіх кіраўнікоў.

Мы не можам утойваць, што ў гісторыі былі зроблены памылкі некаторымі людзьмі, якія называлі сябе вучнямі Езуса. Перад абліччам цяжкіх праблемаў яны часта думалі, што спачатку трэба палепшыць жыццё на зямлі, а потым думаць пра неба. Спакусай была думка, што з пільных патрэбаў перш за ўсё трэба змяняць знешнія структуры. Наступствам гэтага ў некаторых выпадках стала змена хрысціянства ў маралізм, а веры – у дзейнасць. Слушна заўважыў мой папярэднік, с.п. Ян Павел II: «Сённяшняя спакуса – звядзенне хрысціянства выключна да чалавечай мудрасці, да чагосьці накшталт навукі пра тое, як добра жыць. У моцна секулярызаваным свеце адбылася „паступовая секулярызацыя збаўлення", таму вядзецца змаганне за чалавека, але за чалавека, пазбаўленага цэласнасці (...) Мы ж ведаем, што Езус прыйшоў, каб прынесці поўнае збаўленне (...)» (*Redemptoris missio, 11*)

**Вялікі пост хоча нас весці менавіта да гэтага поўнага збаўлення, у чаканні блізкай перамогі Хрыста над усялякім злом, якое прыгнятае чалавека.** Калі мы звернемся да боскага Настаўніка, то навернемся да Яго, спазнаем Яго міласэрнасць дзякуючы сакраманту паяднання і ўбачым пранізлівы да глыбіні «позірк», які можа даць новае жыццё ўсім людзям і кожнаму з нас. Тым людзям, якія не замыкаюцца ў скептыцызме, гэты «позірк» вяртае надзею, адкрываючы перад імі перспектыву шчаслівай вечнасці. А значыць, ужо ў гэтым жыцці Бог ніколі не дазволіць, каб не было светлага сведчання Яго любові, нават калі здаецца, што пераважвае нянавісць. Марыі, «жывой крыніцы надзеі» (*Дантэ Аліг'еры, Рай, XXXIII, 12*), даручаю наш вялікапосны шлях, каб Яна вяла нас да свайго Сына. Ёй аддаю ў асаблівую апеку людзей, якія яшчэ сёння пакутуюць ад беднасці, просяць дапамогі, падтрымкі, спачування. У гэтым духу ад усяго сэрца ўдзяляю ўсім спецыяльнае Апостальскае благаслаўленне.

*Ватыкан, 29 верасня 2005 года.*
*Папа Бенедыкт XVI*
*Пераклад рэдакцыі часопіса "Ave Maria"*

**Молімся і просім Езуса Хрыста ўмацаваць нашую веру, даць вытрымку ў выкананні Вялікапосных пастановаў, каб змаглі мы паглядзець на свет Хрыстовым «позіркам». Амэн.**

# НАБАЖЭНСТВЫ ПАМЯЦІ

***Набажэнствы памяці ахвяраў Росіцкай трагедыі 1943 года прайшлі 18 лютага ў Росіцы (Верхнядзвінскі раён). У іх прынялі ўдзел не толькі вернікі парафіі, але і пілігрымы з Полацка і Наваполацка, Жодзіна і Барысава, Друі і Верхнядзвінска.***

Усіх іх прывяло жаданне, як і штогод, маліцца ў гэтыя дні тут, у Росіцы, на месцы трагедыі часоў вайны. Святую Імшу цэлебраваў генеральны вікарый Віцебскай дыяцэзіі кс. Францішак Кісель, а з ім канцэлебравалі святары з многіх парафій Беларусі.

Ёсць штосьці вельмі значнае, глыбокае і вельмі асаблівае ў гэтых лютаўскіх малітвах у Росіцы, калі так выразна адчуваеш лучнасць з ахвярамі балючых падзеяў складанай гісторыі нашай Бацькаўшчыны, з благаслаўлёнымі святарамі-мучанікамі з Росіцы Антоніем Ляшчэвічам і Юрыем Кашырам, з нашай спакутаванай зямлёй. Вялікія чэргі да канфесіяналаў, засяроджаны ўдзел у святой Імшы ў настылым росіцкім касцёле, працэсія на мемарыяльны пляц пакутніцкай смерці ахвяраў трагедыі... Усё гэта патрэбна, бо людзі прыехалі маліцца, не толькі аплакваючы горкае мінулае, але і просячы ў Бога злітавацца над нашай Бацькаўшчынай, падараваць ёй шчаслівую будучыню.



*Ірына Жарнасек*
*Catholic.by*

# 17-18 ЛЮТАГА – УСПАМІН РОСІЦКІХ СВЯТАРОЎ, ПАКУТНІКАЎ

***Прайшоў ужо пэўны час, як у рэспубліцы афіцыйна адзначалася свята з нагоды перамогі над фашызмам у Другой Сусветнай вайне. Але яшчэ доўга будзе гучаць яе рэха, і ўсё новыя старонкі гісторыі і новыя імёны будуць адкрывацца нашчадкам.***

*Заканчэнне, пачатак у нумары 7*

Аршанскіх школьнікаў захапіла гэта гісторыя. З цікавасцю даведаліся яны, што два разы на год у Росіцу накіроўваюцца пілігрымкі: зімой на аўтобусах прыязджаюць людзі з розных куткоў рэспублікі менавіта ў трагічныя лютаўскія дні. А летам пешшу дабіраюцца да святога месца паломнікі з многіх вясак і гарадоў Віцебшчыны, аддаючы тым самым даніну пашаны і дарожных пакут светлай памяці загінуўшых у агні.

Адзін з вучняў гэтага класа **Уладзіслаў Патоцкі** сказаў, што з'яўляецца парафіянінам касцёла св. Язэпа. Яго пробашч Чэслаў Курэчка шмат робіць для таго, каб аршанцы знайшлі ў сваёй душы Бога. А моладзь з удзячнасцю ўспамінае айца Міхаіла Цвячкоўскага, які зараз працуе пробашчам у Друі. Менавіта ксёндз Міхаіл і Чэслаў ладзілі незабыўныя пешыя пілігрымкі ў Росіцу, у якіх удзельнічаў і вучань Патоцкі з сябрамі.

«Я хацеў бы, каб і мае таварышы па вучобе наведалі гэтае святое месца. Многія з іх яшчэ не запалілі ў сваіх сэрцах агеньчык веры, не наведваюць ні праваслаўную царкву, ні касцёл. Мне здаецца, што расказ аб святых пакутніках Антоніі Ляшчэвічу і Юрыю Кашыру натхніць іх на пэўную душэўную працу», – сказаў хлопчык. Магчыма, сустрэчы са святарамі стануць добрай традыцыяй у гімназіі. Па жаданню бацькоў хутка такі ж незвычайны класны час адбудзецца ў семікласнікаў.




У сваім выступленні айцец Андрэй выкарыстаў цікавую кнігу **«Хрыстос – марыяне – Беларусь»**, выдадзеную выдавецтвам «Про Хрысто» пад рэдакцыяй рэктара Вышэйшай духоўнай семінарыі айцоў марыянаў у Любліне а. Казіміра Пэка, а таксама твор беларускай пісьменніцы Ірыны Жарнасек **«Будзь воля твая»**, у якім расказваецца аб тых жудасных падзеях у Росіцы

Кожнае мучаніцтва нясе ў сабе багаты патаемны змест і зварот да людзей. У час адной са сваіх пілігрымак у Польшчу Святы Айцец Ян Павел ІІ скіраваў да ўсіх нас наступныя словы: **«Узірайцеся ў іх (пакутнікаў) яскравыя прыклады жыцця, каб у вашых сэрцах і ў сэрцах усіх тых, каму вы служыце пастырамі, узрастала любоў да Бога і чалавека».**

*Алена Банкевіч*

# ДЛЯ БОЖИЕЙ МАТЕРИ НЕТ ВРЕМЕНИ. ОТКРОВЕНИЕ ПРЕЧИСТОЙ В ЛУРДЕ

*Окончание, начало в № 5.*

Похоронили Бернадтту в часовне монастыря св.Иосифа в Невере. В 1925 году в присутствии единственного из ближних, оставшегося в живых, брата Петра, Бернадетта была причислена к лику блаженных, а в 1933 году Папой Пием XI объявлена святой. Невер и поныне остается главным местом ее почитания.

Сохранилась фотография, сделанная зимой 1961/1962 г. ксендзом Бернардо. Фотограф снял ее у грота и просил сохранить позу и выражение лица, какие были у нее во время откровений...

...О чудесном гроте недалеко от Лурда, поныне являющемся как бы алтарем надмирной часовни Божией Матери, написаны десятки книг, Отец Рене Лорентин написал и собрал 25 томов свидетельств и исследований о лурдском чуде, среди них и житие Лурдской боговидицы, недавно вышедшее на польском языке.

От явления к явлению Богоматерь предстает в разных образах и ипостасях, но пишется единая Книга. В Париже Она грустит и сетует – плохие времена. В Ла Салетт призывает к молитвам за грешников. В Лурде – к покаянию. В Меджюгорье открывает тайну о близящейся кончине мира и пришествии Господа. В российском откровении начертается летопись новой истории, дается, по сути, новое времяисчисление.

Где бы ни появилась Божия Матерь, касанием державного Перста пробуждает мертвых, исцеляет слепых, благословляет верных и исполняет миссию по возрождению истинной веры и Церкви Христовой. Так раскрывается таинственная миссия Пречистой Девы, лишь намеком данная в Писании и у святых отцов.

В Фатиме и Меджугорье, в Италии Она обещает окончательно сокрушить державу дьявола. В России объявляет, что последнее сражение уже наступило, что власть дьявола ослаблена и отныне перейдет к праведникам! Но мы должны помочь Ей одержать победу на земле над полчищами врагов: гипнотизеров, черных эфиопов-оборотней, космических учителей.



Статуя Богоматери Лурдской, помещенная в гроте, исполнена особой духовной скорби и грусти. Она предстатель ствует Господу с прошением о тех, кто в наивысшей степени нуждается в Ее помощи: об отлученных, больных, слепых, проклятых... О нас...

*По интернет-материалам*

## НАВІНЫ

### Бенедикт XVI встретился с президентом Албании

Папа Бенедикт XVI дал частную аудиенцию президенту Албании Альфреду Моисиу 24 февраля.

Альфред Моисиу, избранного на пост главы государства в июне 2002 года, сопровождала его жена и делегация из нескольких человек.

Пресс-служба Ватикана не сообщает о деталях встречи. Однако, согласно агентству CWN, в ходе 20-минутной беседы речь шла о поездке Папы Иоанна Павла II в Албанию в 1993 году и о подвижничестве блаж. Матери Терезы, уроженки этой страны.

Как сообщает Радио Ватикана, Альфред Моисиу, «исповедующий православную веру, всегда был сторонником диалога и мирного сосуществования представителей различных религиозных общин страны».



«Албанский президент присутствовал на Мессе беатификации Матери Терезы Калькуттской 19 октября 2003 года» и «предложил объявить этот день в стране национальным праздником, чтобы почтить память албанской подвижницы. Его петиция была одобрена Тиранским парламентом», – напоминает Радио.

В ноябре минувшего года Бенедикт XVI также встречался с албанским премьер-министром Сали Беришой.

Население Албании составляет 3,5 млн. человек, 50% из которых – мусульмане, 25% – православные и 15% – католики.

*Agnuz*

# СЛОВА БОЖАЕ Ў НЯДЗЕЛЮ

## 5 САКАВІКА
## 1 НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ
## ЧЫТАННЕ КНІГІ БЫЦЦЯ

*(Быц 9, 8-15)*

Так сказаў Бог Ною і сынам ягоным, якія былі з Ім:

"Вось Я ўстанаўлю запавет Мой з вамі і з вашым патомствам пасля вас, і з кожнай жывой душою, якая з вамі, з птушкамі, жывёлай і усімі звярамі зямнымі, якія з вамі – з усім, што сыдзе з каўчэга, з усім, што жыве на зямлі. Устанаўлю запавет Мой з вамі; і больш ніколі воды патопу не заб'юць усялякага цела, і не будзе больш патопу, які спусташае зямлю".

І сказаў Бог: "Вось знак запавету, які Я ўстанаўлю на вечныя пакаленні паміж Мною і вамі, і кожнай жывой душою, якая з вамі: кладу вясёлку Маю на воблаку, і будзе яна знакам запавету паміж Мною і паміж зямлёю. І станецца, калі Я навяду воблака на зямлю, то з'явіцца вясёлка Мая на воблаку, і ўспомню пра запавет Мой, які Я ўстанавіў з вамі і з кожнай жывой душою ўсялякага цела; і больш ніколі воды не стануць патопам, што знішчае ўсялякае цела".

***Лектар:*** Гэта слова Божае.
***Усе:*** Дзякуем Пану Богу.

## ПСАЛЬМ

*(Пс 25 (24), 4-5ав. 6-7вс. 8-9*

***Рэфрэн: Усе дарогі Госпада – вернасць і праўда***

Дай спазнаць Твае дарогі, Госпадзе, *
і навучы мяне Тваім сцежкам.
Вядзі мяне ў праўдзе Тваёй і навучы, *
бо Ты Бог майго збаўлення.

***Рэфрэн.***

Узгадай пра міласэрнасць сваю, Госпадзе, *
і пра ласку сваю, бо яны спрадвеку.
Памятай пра мяне паводле Тваёй міласэрнасці, *
дзеля вялікай дабрыні Тваёй.

***Рэфрэн.***

Госпад добры і справядлівы, *
таму паказвае грэшнікам шлях.
Ён кіруе прыніжанымі ў справядлівасці *
і навучае пакорных сваім шляхам.

***Рэфрэн.***

## ЧЫТАННЕ ПЕРШАГА ПАСЛАННЯ СВЯТОГА АПОСТАЛА ПЯТРА

*(1 П 3, 18-22)*

Умілаваныя:

Хрыстус аднойчы пацярпеў за грахі, справядлівы за несправядлівых, каб прывесці вас да Бога. Забіты ў целе, але ажыўлены ў Духу. У Ім таксама Ён прыйшоў абвяшчаць тым духам, што ў вязніцы, якія некалі былі непакорнымі, калі Божая доўгацярплівасць чакала ў дні Ноя, у час пабудовы каўчэга, на якім нямногія, усяго восем душ, уратаваліся праз ваду.

Так і нас, паводле гэтага ўзору, яна ратуе цяпер праз хрост, не праз абмыццё цялеснага бруду, але праз абяцанне Богу добрага сумлення, праз уваскрашэнне Езуса Хрыста, Які, узышоўшы на неба, знаходзіцца праваруч Бога, і Якому пакарыліся Анёлы і ўлады, і моцы.

***Лектар:*** Гэта слова Божае.
***Усе:*** Дзякуем Пану Богу.

***Алелюя!***

Не адным хлебам жыве чалавек,
але кожным словам, якое выходзіць з вуснаў Божых.

***Алелюя!***

## ✠ ЧЫТАННЕ СВЯТОГА ЕВАНГЕЛЛЯ ПАВОДЛЕ МАРКА

*(Мк 1, 12-15)*

У той час:

Дух павёў Езуса ў пустыню. Сорак дзён прабыў Ён у пустыні, спакушаемы д'яблам. Жыў там сярод жывёлаў, і Анёлы служылі Яму. Калі Ян быў зняволены, Езус прыйшоў у Галілею і прапаведаваў Евангелле Божае. Ён казаў: "Час настаў, і ўжо блізкае Валадарства Божае. Навяртайцеся і верце ў Евангелле!"

***Лектар:*** Гэта слова Пана.
***Усе:*** Хвала Табе, Хрысце.



## КОНГРЕСС В ВАТИКАНЕ

***Ватикане пройдет конгресс, посвященный развитию человеческого эмбриона.***



«Эмбрион, даже до своей имплантации, уже является ребенком», – заявил президент Папской академии в защиту жизни епископ Элио Сгречча.

Прелат выступил на пресс-конференции по случаю предстоящего конгресса «Человеческий эмбрион перед имплантацией: научные новшества и биоэтические размышления». Мероприятие, организованное данной академией, запланировано на 27-28 февраля.

«В любом случае эмбрион является ребенком: мальчиком или девочкой, связанным особыми отношениями со своими родителями, а для верующих, связанным особыми отношениями с Богом», – подчеркнул епископ Сгречча.

В работе конгресса примут участие около 350 экспертов, среди которых ученые, врачи, исследователи, теологи и специалисты в области биоэтики.

*Agnuz*

## МОНАХИНЯ УДОСТОЕНА ПРЕМИИ PRO-ECCLESIA ET PONTIFICE

***Сестра Лурдес Шихэм, генеральный секретарь Епископской конференции США, была удостоена премии Pro-Ecclesia et Pontifice.*** Эта премия, учрежденная в 1888 году Папой Львом XIII, вручается мирянам и представителям духовенства, которые внесли выдающийся вклад в миссию Церкви.

Награда была вручена монахине в конце января, а в марте сестра Лурдес покинет своей пост и уйдет на покой. Вашингтонский кардинал Теодор МакКаррик порекомендовал кандидатуру сестры Лурдес, представительницы конгрегации Сестер милосердия Америки, за ее «неоценимое служение во благо Католической Церкви».

До того как занять пост генерального секретаря епископата страны, монахиня два срока возглавляла комитет по вопросам образования при Епископской конференции.

Ранее монахиня возглавляла программы, связанные со средним образованием, и являлась директором комитета по христианской формации епархии Ричмонда. Она также несла служение в Национальной католической образовательной ассоциации и Национальной ассоциации советов католического образования.



Сестра Шихэм является лауреатом Президентской награды за выдающееся служение в сфере католического образования.

*Agnuz*

## ПРЕМЬЕР ПАКИСТАНА ВСТРЕТИЛСЯ С ХРИСТИАНСКИМИ ЛИДЕРАМИ

«Не вините нас в ошибках Запада», – заявили 2 католических епископа и 7 религиозных лидером Протестантской Церкви во время встречи с премьер-министром страны Шаукатом Азизом. Христианские лидеры также призвали политика способствовать большей справедливости в обществе и борьбе с дискриминацией отдельных его слоев.

По стране прокатились демонстрации против публикации рядом европейских изданий карикатур на пророка Мухаммеда, воспринятые большинством страны как проявления богохульства. Христиане и их собственность стали частыми объектами насилия со стороны протестующих. Все эти события вселили в христиан тревогу и неуверенность в завтрашнем дне.

«Премьер-министр принял нас радушно и выразил свое сожаление в связи с нападениями и уничтожениями христианских церквей», – отметил архиепископ Лахора Лоуренс Салданха в своем интервью агентству AsiaNews.

Представители Католиче-ской и Протестантских Церквей вновь резко осудили карикатуры на пророка и призвали положить конец насилию. В послании, обнародованном 24 февраля, они заверили всех христиан, пострадавших в результате эскалации насилия, в своей духовной близости.

«Несомненно, недавние нападения на церкви в Сангла Хилл и Суккуре вселили в христиан Пакистана тревогу и опасения. Но премьер-министр дал свое согласие убрать плакаты, призывающие совершать акции насилия против немусульман. Власти стремятся поддерживать в стране межрелигиозное согласие и гарантировать мирную жизнь всем, проживающим в стране. Сложившаяся ситуация еще сильнее сблизила католиков и протестантов, а именно в единстве наша сила», – отмечается в совместном документе представителей этих христианских деноминаций.



*Agnuz*

# «DEUS CARITAS EST»

## *wokół pierwszej encykliki Benedykta XVI*

*Працяг, пачатак у нумары 7*

Nie mogę się powstrzymać od przytoczenia fragmentu: „Eros Boga do człowieka jest zarazem... w pełni agape. (...) Namiętna miłość Boga do swojego ludu – do człowieka – jest zarazem miłością, która przebacza. Jest ona tak wielka, że zwraca Boga przeciw Niemu samemu, Jego miłość przeciw Jego sprawiedliwości».

Bóg stworzył człowieka do miłosci. Nie jest dobrze, aby człowiek był sam: ale eros łatwo staje się narzędziem namiętności, dążącej do zawładnięcia przedmiotem swego pożądania. Potrzebna jest agape, która nadaje erosowi nowy i pełen piękna blask, rys bezinteresowności, ucząc go troski o drugiego.

To, co Benedykt XVI napisał o jedności tych dwu postaci miłości, wiedzie do istotnego wniosku – o jedności przykazania miłości Boga i człowieka. Padają mocne stwierdzenia o tych, którzy te dwie miłości oddzielają. Przypominają się słowa, jakimi Mauriac opisuje bohaterkę jednej ze swych powieści: „Ponieważ nie kochała nikogo, uważała, że kocha Boga». Można mieć nadzieję, że encyklikę przeczytają także i tacy chrześcijanie. Kto wie, może coś zrozumiej.

Pierwszą część encykliki, mówiącą szeroko o ludzkiej miłości, podzielić można na dwie sekcje. W pierwszej (do numeru 11) w centrum refleksji leży relacja eros – agape (w kontekście relacji mężczyzna – kobieta), oświetlona przez rozważania filozoficzne i świadectwo biblijne. Eros i agape, otrzymywanie i dawanie, miłość cielesna i duchowa, ukazane są wyraźnie jako różne aspekty tej samej miłości: eros musi być dopełniony przez bezinteresowny wymiar agape; ta zaś nie może się obejść bez otrzymywania.



Druga sekcja części pierwszej pozostawia relację eros – agape i przechodzi do refleksji nad miłością bliźniego. Najpierw wskazuje na Jezusa jako „ucieleśnienie pojęć»: dar miłości Bożej dla człowieka, który objawia się na krzyżu, udziela się w wymiarze sakramentalnym (Eucharystia) i tworzy Kościół. Miłość człowieka, będąca odpowiedzią na ten dar, prowadzi do przemiany myśli, woli i pragnień na Boży wzór, dzięki czemu możliwe jest kochać bliźniego w Bogu i z Bogiem.

Na tak zbudowanym pojęciu miłości bliźniego opiera się druga część encykliki, poświęcona instytucjonalnej posłudze miłosierdzia prowadzonej przez Kościół. Benedykt XVI podkreśla, że przynależy ona do istoty misji Kościoła i stanowi jeden z najbardziej skutecznych ewangelizacyjnie obszarów jego działalności. Specyficznie chrześcijańska caritas nie ogranicza się tylko do stworzenia struktur pomocy, ale chce być przy potrzebującym tak, aby mógł doświadczyć ciepła miłości bliskiej osoby.

Bardziej krytyczni czytelnicy encykliki staną zapewne przed trzema pytaniami. Po pierwsze: część druga uderza nagłym zawężeniem perspektywy rozważań do caritas, jednego ze sposobów realizacji miłości. Szkoda że wybór ten nie został wyraźnie umotywowany (brak dokumentu o wysokiej randze na ten temat?). Jednocześnie nasuwa się pytanie, czy wobec faktu, że w wielu krajach usiłuje się aktywność chrześcijan ograniczyć wyłącznie do „społecznie użytecznej» działalności charytatywnej, nie pojawią się tendencje, by dokument papieski odczytać jako swoistą zgodę na taki stan rzeczy?



Po drugie: zaskakuje, że słowo «Kościół» zarezerwowane jest prawie wyłącznie do aspektu instytucjonalno-hierarchicznego; „Kościół» zostaje wręcz odróżniony od „świeckich» poprzez wskazanie różnych zadań (nr 29). Czy posługa, jaką podejmuje wierzący świecki (w jakimkolwiek obszarze życia), nie jest także aktywnością „Kościoła», wyrastającą z sakramentalnego wszczepienia w Ciało Chrystusa?

Po trzecie: Duch Święty (szerzej: aspekt trynitarny) nie pojawia się w części pierwszej poświęconej miłości (!), a potem intensywnie jedynie w nr 19 i jeszcze dwóch miejscach. Czy takie pominięcie pneumatologii, gdy mówi się o tym, jak dokonuje się w nas recepcja i realizacja Bożej miłości, nie prowadzi do ukazania jej jako aktywności prawie wyłącznie ludzkiej? Czy odpowiedź na uprzedzającą miłość Boga jest możliwa bez tchnienia Ożywiciela?

Podkreślmy najcenniejsze wątki tekstu. Benedykt XVI wywodzi fundamentalną jedność eros i agape ze splecionej lektury filozoficznej i teologicznej. Kluczem są ostatecznie teksty biblijne, ukazujące miłość Boga za pomocą erotycznych metafor (Pieśń nad Pieśniami, Księga Ozeasza): „Bóg miluje, i ta Jego miłość może być określona bez wątpienia jako eros, która jest równocześnie także agape» (nr 9)

*Tygodnik powszechny*

*Працяг у наступным нумары*

# ЯН ПАВЕЛ II. «UT UNUM SINT» ЭНЦЫКЛІКА ПРА ЭКУМЕНІЧНУЮ ДЗЕЙНАСЦЬ

***У 1995 г. была абвешчана гістарычная энцыкліка Вялікага Папы «Ut unum sint», прысвечаная экуменічнай дзейнасці Касцёла, кароткі пераказ зместу якой прапануецца вашай увазе.***

*(Працяг. Пачатак у №4)*

## Сувязі са старажытнымі Цэрквамі Усходу

Пасля II Ватыканскага Сабору Каталіцкі Касцёл аднавіў братнія сувязі з тымі старажытнымі Цэрквамі Усходу, якія калісьці паставілі над сумнні дагматычныя формулы Эфескага і Халцэдонскага Сабораў. Так, Павел VI падпісаў з копцка-праваслаўным Патрыярхам і сірыйска-праваслаўным Патрыярхам Антыёхіі дэкларацыю, у якой яны разам вызналі «супольную веру ў Езуса Хрыста, сапраўднага Бога і сапраўднага чалавека». Гэтае хрысталагічнае паразуменне было пацверджана і Янам Паўлам II, які развіваў такія кантакты таксама з Патрыярхам Эфіопскай Царквы і асірыйскім Патрыярхам Усходу. Гэтыя поспехі сведчаць пра тое, што Касцёл, стаўшы на шлях экуменізму, зрабіў правільны выбар.

## Дыялог з іншымі Цэрквамі і царкоўнымі Супольнасцямі

Згодна з Дэкрэтам Сабору, «Цэрквы і царкоўныя супольнасці, якія аддзяліліся ад Рымскай Апостальскай Сталіцы ў часы, хіба што, найцяжэйшага на Захадзе пералому, які пачаўся на схіле Сярэднявечча, або таксама пазней, аб'ядноўваюць з Каталіцкім Касцёлам роднасць і асаблівая сувязь, паколькі хрысціянскі народ на працягу многіх мінулых стагоддзяў жыў у агульным Касцёле. (...) Трэба аднак памятаць, што паміж гэтымі Цэрквамі і Супольнасцямі і Каталіцкім Касцёлам існуюць сур'ёзныя разыходжанні не толькі гістарычнага, сацыялагічнага, псіхафізічнага і культурнага характару, але ў асноўным у інтэрпрэтацыі аб'яўленай праўды». Разам з тым, гэтыя разыходжанні не выключаюць узаемных уплываў і дапаўнення.

«Экуменічны рух распачаўся менавіта ў асяроддзі рэфармаваных Цэркваў і Супольнасцяў», хоць II Ватыканскі Сабор адзначае, што ён не паўсюль яшчэ ўмацаваўся, як і жаданне



міру з Каталіцкім Касцёлам. «Нягледзячы на гэтыя акалічнасці, Сабор прапануе дыялог». Падставаю для гэтага дыялогу, на думку Айцоў Сабора, павінна стаць Святое Пісанне, якое знаходзіцца ў вялікай пашане ў многіх прадстаўнікоў рэфармаваных Супольнасцяў, а таксама агульны для ўсіх нас сакрамант Хросту. Прадметам дыялогу павінны стаць «вучэнне пра Гасціну Пана, пра іншыя сакраманты і культ, а таксама пра ступені служэння ў Касцёле», бо ў гэтых Цэрквах і Супольнасцях асабліва з-за адсутнасці сакраманту Святарства не была захаваная «належная і поўная сутнасць Эўхарыстычнай таямніцы». У якасці станоўчых сведчанняў веры ў Хрыста, якія ёсць у гэтых Супольнасцях, Сабор адзначае духоўнае і маральнае жыццё, жывое адчуванне справядлівасці, шчырую любоў да бліжніх. Такім чынам Сабор звяртае ўвагу на этычна-маральную праблематыку, якая становіцца ўсё больш актуальнай у наш час і ўяўляе сабою дабрадатную глебу для адпаведнага дыялога. «Пастановы і рэкамендацыі II Ватыканскага Сабору былі рэалізаваныя, што прывяло да паступовага ўстанаўлення двухбаковага тэалагічнага дыялогу з рознымі хрысціянскімі Цэрквамі і Супольнасцямі Захаду, якія існуюць ва ўсім свеце. (...) Дзякуючы малітве імкненне да адзінства не застаецца выключна справаю невялікай групы спецыялістаў, але ахоплівае ўсіх ахрышчаных».

## Эклезіяльныя сувязі

Моцны імпульс працэсу шукання еднасці даў Папа Павел VI, наведаўшы ў 1969 г. Экуменічную Раду Цэркваў, а таксама шмат разоў сустракаючыся з прадстаўнікамі розных Цэркваў і супольнасцяў. Ян Павел II таксама пайшоў у гэтым кірунку, сваімі душпастырскімі візітамі даючы сведчанне на карысць адзінству хрысціянаў, асабліва ў тых краінах, дзе сітуацыя падказвала пэўны экуменічны «прыярытэт». Сярод іх – еўрапейскія краіны, дзе пачалася рэфармацыя, і Паўночная Амерыка. Сустракаючыся там са шматлікімі вернікамі, Папа сцвердзіў, што «мы адчулі прысутнасць Пана сярод нас». Ён таксама ўзгадвае шэраг падзеяў, якія сведчаць пра ўзаемнае жаданне аднавіць ранейшае адзінства.

*Catholic.by*

*Працяг будзе*

# УСПАМІН ПРА БЕЛАРУСЬ

Марозным ранкам мы былі ў Брэсце. Здавалася, што паветра не калыхнецца, бо яно баіцца паварушыцца, каб не зледзянець. Мы былі ў самым пачатку нашага шляху, падарожжа у Польшчу, у горад Быдгашч, дзе нас чакаў гасцінны прыём. Але ў той марозны ранак ніхто з нас не ведаў, што наступны тыдзень яскравым промнем прамігне і застанецца ў нашых сэрцах, а ў шчырых дамах польскіх гаспадароў яшчэ доўга пасля нашага ад'езду будзе зіхацець усмешка на тварах, як успамін пра Беларусь.

Чыгуначны выкзал Брэста пакінуў пасля сябе імглісты подых і пажадаў нам добрай дарогі.

Шлях, доўгі шлях праз Польшчу, праз яе мясцовасці, краявіды, праз яе сэрца – Варшаву. Праз заімглелыя шыбы аўтобуса мы бачылі невялікія мястэчкі, буйныя гарады, мы хапалі ўражанні, стараліся запомніць як мага больш, каб потым звяртацца да гэтых мясцін у час смутку, развагі, ці душэўнага непакою. Каторы раз ты едзеш па знаёмых дарогах, а яны зноў і зноў зачароўваюць цябе, завабожваюць сваімі таямніцамі, казкамі, сваім подыхам стагоддзяў.

**ГОСЦЬ У ДОМ.** З такім заклікам група палякаў з Беларусі была запрошана ў Польскі горад Быдгашч на Каляды. Нас сустракалі польскія сем'і, якія адкрылі свае сэрцы сябрам, з суседняй краіны, каб разам сустрэць Свята Божага Нараджэння.

Вудзынэк. Так называлася невялічкая мясцовасць недалёка ад Быдгашчы, дзе жыла сям'я ***Войтка і Хані Баўмгарт***, якія месяц таму пачулі заклік па мясцовым тэлебачанні аб тым, што рыхтуецца прыезд групы з Беларусі, і першыя патэлефанавалі на тэлебачанне ў той дзень,



каб запрасіць гасцей ў свой дом. На працягу ўсяго часу падрыхтоўкі і побыту гасцей мясцовае тэлебачанне сачыла за гэтай ветлівай і вельмі цікавай сям'ёй, якая шчыра прыняла ў сябе мяне і майго брата.

Вельмі прыемна сустракаць добрых і чулых людзей, якія становяцца тваімі сябрамі, з якімі ты адчуваеш сябе проста і шчыра, з якімі лёгка размаўляць, якіх ты разумееш без асаблівых ведаў, з якімі ў цябе падобны погляд на мір. Прыемна адчуваць, што ты не адзінокі ў гэтым свеце, што ёсць тыя сябры, сустрэчу з якімі, табе падрыхтаваў Дзіцятка Езус, такі маленькі, але такі мудры. Сям'я Войтка і Хані стала для нас роднай за некалькі гадзін. Сапраўды, людзі, якіх паяднаў Бог, шануюць гэты дар, не пагарджаюць ім, бо, магчыма, адчуваюць некую адказнасць за яго.

Божае Нараджэнне мы сустракалі далёка ад бацькоў, але ў сваіх думках мы былі разам. І нас стала больш. Новыя сябры сталі часткаю нашай сям'і, як кожны, хто адкрывае сваё сэрца насустрач нам.

Тыдзень мінуў вельмі хутка. Час заўсёды ляціць хутка, калі ты не звяртаеш увагі на яго. Арганізаваная праграма была вельмі насычанай і цікавай. Мы сустрэліся са знакамітымі людзьмі: арцыбіскупам Гнезна, біскупам Быдгашчы, з мэрамі гэтых гарадоў, з маршалкам Торуні. Быдгаш, Торунь і Гнезна адкрылі для нас свае самыя прыгожыя мясціны, паказалі нам свае велічныя будынкі, расказалі нам свае легенды, зачаравалі нас паветрам стагоддзяў, знайшлі куточкі ў нашых сэрцах і засталіся там назаўсёды.

Як шкада пакідаць цябе, гасцінны польскі край! **Як шкада развітвацца з дарагімі сябрамі! Мы пакінулі вам цеплыню сваіх сэрцаў, свае шчырыя словы, свае мілагучныя песні – усё самае добрае, што ў нас было. Няхай усё гэта застаецца з вамі, як успамін пра Беларусь.**

*Крысціна Сіліцкая*

# ВАЧЫМА ДЗЯЦЕЙ

## Пахвалёны Езус Хрыстус, дарагі дружа!

Наступіў час Вялікага Посту. Ты ўжо вызначыў тыя пастановы, якія хочаш скласці ў часе падрыхтоўкі да урачыстага Уваскрашэння Езуса Хрыста?

1 сакавіка 2006 года была Папяльцовая серада. Памятаеш, у гэты дзень у касцёле тваю галаву пасыпалі попелам, ці, можа, бацькі прынеслі горстку попелу, завернутага ў паперку. Гэта адбывалася ў знак таго, што ты шкадуеш за свае правіны, хочаш іх выправіць і дзеля гэтага складаеш свае пастановы. Кожны дзень у касцёле будзе адбывацца Крыжовы шлях, у якім ты можаш прымаць удзел, а калі не атрымліваецца ў касцёле, то памятай аб гэтым часе і далучайся ў малітве да разважанняў Крыжовага шляху дома. *Сёння я раскажу адну прыпавесць, якая дапаможа табе глыбей зразумець сэнс Вялікага Посту.*

«Аднойчы бабуля несла сваю маленькую ўнучку да бацькоў у мяккай падушцы. Дзяўчынка крычала, не перастаючы. Бацькі

# НАВІНЫ



кі не спалі ўсю ноч, таму што Крысціна ўсю ноч адчувала сябе дрэнна. Яны вельмі спалохаліся і думалі, што ў яе нешта баліць.

Яна была іх першым дзіцяткам, за яе яны дзякавалі Богу ад усяго сэрца. Кожны дзень бацькі з глыбокай пашанай распасціралі рукі над дзіцём і праслаўлялі Бога. Яны думалі: «Бог здзейсніў вялікі цуд – нарадзіўся новы маленькі чалавечак, які будзе жыць у гэтым і вечным жыцці». Святар у пропаведзі сказаў ім: «Вось спадчына ад Госпада – дзеці».

Але чаму ж Крысцінка так крычала? – Бабуля адразу зразумела прычыну турботы. Вы таксама яе ведаеце? Так, у дзяўчынкі прарэзаўся першы зубік, а гэта вельмі балюча.

У вельмі хуткім часе гэтая маленькая дзяўчынка прынесла сваім бацькам шмат радасці. Аднойчы, калі ёй было пяць гадоў, яна з мамай ехала ў аўтобусе. Насупраць іх сядзеў малады чалавек. Гэта быў знакаміты паэт. Дзяўчынка паглядзела на яго сваімі вялікімі сінімі вачыма і спытала:

**– А ты таксама любіш Езуса?**

Малады чалавек збянтэжыўся і стаў глядзець у акно. На наступнай станцыі ён выйшаў, але пытанне маленькай дзяўчынкі не давала яму спакою. Ён пачаткаў вывучаць жыццё Езуса Хрыста і паволі зразумеў, што **Біблія – самая чыстая, моцная і ўзнёслая кніга ў свеце.**

Пазней маці сустрэла таго знакамітага паэта яшчэ раз.

– Ваша дачка паказала мне шлях да Хрыста, за гэта я ёй буду вечна ўдзячны, – прызнаўся ён.

**А ты, дарагі дружа, ці ты расказваеш іншым пра Езуса?** Шматлікія дзеці ўжо паказалі іншым людзям шлях у неба.

Крысціна старанна вучылася ў школе. Аднойчы настаўнік расказваў аб усемагутнасці Бога і сказаў, што вочы Госпада глядзяць на добрых і злых людзей, і нічога нельга ад Яго схаваць, таму што Ён бачыць усё. Крысціна падняла руку. Настаўнік спытаў:

– Ну, Крысціна, што ты хочаш сказаць?

– Спадар настаўнік, а я ведаю нешта, чаго Бог не можа бачыць.

– І што ж? – спытаў настаўнік.

Крысціна адказала:

– Бог не бачыць нашы грахі, амытыя крывёй Езуса Хрыста.

– Гэта праўда, – пагадзіўся настаўнік. – Нашы грахі поўнасцю сціраюцца крывёй Хрыста, так што Сам Бог іх больш не бачыць».



**Дарагі дружа!** Давай намалюем з табой лесвіцу і назавем яе "Лесвічкай да Хрыста". Яна будзе мець 40 прыступак, на кожнай з якіх ты кожны дзень зможаш запісваць свае дасягненні ў духоўным развіцці: удзел у Крыжовым шляху, малітва, малітва на Ружанцы, дапамога дарослым, аповед сябрам пра Бога і пост і г.д. **Жадаю табе вялікай вытрымкі духа ў выкананні тваіх пастаноў!**

*Вашая Надзейка*

# СВЯТЫ ХРОСТ



## З радасцю паведамляем, што за апошні час Сакрамант Хросту атрымалі наступныя дзеці і дарослыя:

1. Фёдар Петрашкевіч, сын Дзяніса і Вольгі
2. Вікторыя Шапіра, дачка Аляксандра і Вольгі
3. Паліна Заброцкая, дачка Дзмітрыя і Вольгі
4. Аліна Масальская, дачка Аляксандра і Анастасіі
5. Анастасія Міхалевіч, дачка Алега і Валянціны
6. Аліна Рослік, дачка Валерыя і Вольгі
7. Марыя Ладзято, дачка Паўла і Наталлі

## Малітва бацькоў пасля Хросту

Божа, Ойча ўсяго жывога! Зірні ласкава на гэтае дзіцятка, якое Ты даў нам. Адары яго верай, надзеяй і любоўю, учыні, каб, узрастаючы ў ласцы і любові, заквітнела добрымі ўчынкамі і стала дзіцяткам Тваім навекі.

**СВЯТАЯ ІМША БУДЗЕ АДСЛУЖАНА**

. 2006г. у . гадзін

у інтэнцыі

| 6 сакавіка Панядзелак | 7 сакавіка Аўторак | 8 сакавіка Серада | 9 сакавіка Чацвер | 10 сакавіка Пятніца | 11 сакавіка Субота | 12 сакавіка Нядзеля |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 9.00 - ✞ | 9.00 - ✞ | 9.00 - ✞ | 9.00 - * | 9.00 - ✞ | 8.00 - ✞ | 9.00 - * |
| 12.00 - * | 12.00 - ✞ | 12.00 - * | 12.00 - ✞ | 12.00 - * | 10.00 - * | 10.00 - *IT |
| 17.00 - ✞ | 17.00 - * | 17.00 - ✞ | 17.00 - * | 17.00 - * | 12.00 - ✞ | 11.00 - * |
| 19.00 - ✞ | 19.00 - ✞ | 19.00 - * | 19.00 - ✞ | 19.00 - ✞ | 17.00 - * | 13.00 - S |
| | | | | | 19.00 - M | 17.00 - *🧒 |
| | | | | | | 19.00 - * |

✞ – Св. Імша ў інтэнцыі памерлых
* – Св. Імша ў інтэнцыі аб здароўі, Божым блаславенстве, апецы Маці Божай
S – Summa – Св. Імша ў інтэнцыі ўсёй парафіі
M – Св. Імша з удзелам парафіяльнай моладзі

PL – Св. Імша на польскай мове
🧒 – Св. Імша для дзяцей
**скл.** – складковая Святая Імша
IT – Св. Імша на італьянскай мове
♥ – Св. Імша для маладых сем`яў

Штодзённа ў касцёле а 15-й гадзіне чытаецца **Каронка да Божай Міласэрнасці**
У капліцы Маці Божай Будслаўскай – **Вячыстая Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту**
Кожны дзень у нашай парафіі а 20-й гадзіне спяваецца **АПЭЛЬ**

7 сакавіка – Успамін св. Перпетуі і Феліцыты, пакутніц
8 сакавіка – Успамін св. Яна Божага, законніка
9 сакавіка – Успамін св. Францішкі Рымскай, законніцы

5 САКАВІКА - 1 НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ

## РАДУЕМСЯ З ВАМІ

**4 сакавіка ДЗЕНЬ СВЯТОГА КАЗІМІРА – Дзень Анёла ўсіх, хто носіць імя Казімір. Святы Казімір, каралевіч, апякун моладзі абраны апекуном Гродзенскай дыяцэзіі і г. Гродна. Ён тут, на нашай зямлі, у Гродна часта бываў. Святы Казімір абраны галоўным апекуном Літвы. У Вільні, у катэдральным касцёле, знаходзяцца яго мошчы.**

**У гэты дзень віншуем ад шчырага сэрца з імянінамі нашага Кардынала КАЗІМІРА СВЁНТЭКА, біскупа КАЗІМІРА ВЕЛІКАСЕЛЬЦА, айца КАЗІМІРА ЛЯХОВІЧА і ўсіх, хто носіць імя Казімір. Жадаем ВАМ атрымаць праз заступніцтва гэтага вялікага Святога ўсе неабходныя ласкі!**

## ІМЯНІНЫ

**6 сакавіка - св. Роза (Ружа), св. Агнешка -** Астап, Віктар, Георгій, Калета, Вітольд, Ія, Ярдан, Вікторыя, Цімафей
**7 сакавіка - св. Перпетуя і св. Фэліцыта -** Апанас, Тамаш, Павел, Марыя, Маўрыкій, Тамара, Фёдар
**8 сакавіка - св. Беата, св. Ян -** Вінцэнты, Эдвард, Анна, Веслаў, Стэфан, Стэфанія, Вінцэнта, Веслава
**9 сакавіка - св. Францішка, св. Кацярына -** Дамінік, Дамініка, Барыслаў, Барыслава, Соф'я, Францішак, Зофія, Іван
**10 сакавіка - 40 святых пакутнікаў з Себасты, св. Макар -** Кіпрыян, Аляксандр, Берта, Марцелін, Макар, Марцэля, Тарас
**11 сакавіка - св. Сафроній -** Канстанцін, Канстанцыя, Людаслаў, Людаслава, Кацярына, Парфірый, Севасцьян, Бенедыкт
**12 сакавіка - св. Максімільян, св. Алоіз -** Рыгор, Бернард, Гражына, Сабіна, Пракоп, Ціта

Голас душы № 9 (193) 2006. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 2178. Выдадзена міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 19 лістапада 2003 г.
Заснавальнік: грамадскае аб'яднанне «Хрысціянскае таварыства міласэрнасці». Выдаецца з верасня 2000г. на беларускай, рускай, лацінскай і польскай мовах.
Галоўны рэдактар – Кс. Уладыслаў Завальнюк, адказны рэдактар – Наталля Сундукова, вёрстка – Максім Салавей.
Адрас рэдакцыі: 220050, г. Мінск, вул. Савецкая, 15. Тэл.: (017) 200-44-15, (017) 200-56-32. Факс: (017) 200-55-61, E-mail: church_minsk@nsys.by, www.churchminsk.by. Падпісана да друку 01.03.2006. Фармат 60x84 1/8. Наклад 250 асобнікаў.

# ЭДВАРД ВОЙНИЛЛОВИЧ
# ВОСПОМИНАНИЯ

## ФУНДАТАР І МЕЦЭНАТ ПАБУДОВЫ КАСЦЁЛА СВ. СЫМОНА І СВ. АЛЕНЫ, А НАШ СУАЙЧЫННІК ЭДВАРД ВАЙНІЛЛОВІЧ, НЯХАЙ ВЕРНЕЦЦА Ў СВОЙ ХРАМ!

*Продолжение, начало в № 7*

В течение нескольких дней расхищения и погрома имения Войнилович скрывался из-за попыток посягательства на его жизнь. Оккупация Минска немецкими войсками положила конец этой неразберихе и гонениям... Однако во время этой оккупации Войниллович защищал от немцев погромщиков, спасая их от смерти – он считал,что это его соседи, соотечественники. Никакому давлению с одной и с другой стороны не поддавался, ничью сторону не принимал, невзирая на переменный успех воюющих сторон. Он не верил в победу немцев, предполагая, что они потерпят поражение в России и что Россия первая выйдет из коалиции. Уход немцев из Белоруссии заставил Войнилловича, как и всё землячество, покинуть родовые гнезда и искать приюта в Варшаве.

После освобождения г. Минска в августе 1919 г. Войниллович возвращается в Савичи, разрушенные полностью. Несколько месяцев он был занят восстановлением хозяйства в имении, одновременно занимаясь общественными и политическими делами. Действительно надо было обладать железным здоровьем, чтобы в возрасте более 70 лет совершать постоянные поездки в Вильно, Минск и Варшаву, и всё это в неимоверно тяжелых условиях. Из-за разрухи на железной дороге, загруженности войсковыми перевозками, часто приходилось пользоваться конным транспортом, порой преодолевая расстояния до 20 миль. Войниллович не отказывался от любой, нужной для общества, работы, спешил на каждый зов земляков, не опасаясь за своё здоровье и жизнь в период свирепствующих эпидемий. На неудобной телеге совершает утомительную семимильную поездку в Слуцк, чтобы на собрании местного сельскохозяйственного товарищества поддержать идею государственного займа.

И вот новый удар для восстанавливаемого хозяйства в Савичах и Пузове. 6 июля 1920 г. Войниллович получает приказ о немедленной эвакуации всего имущества в связи с отступлением польских войск. С небольшим уцелевшим имуществом, которое удалось сохранить, со слезами провожаемый местными жителями, он оставляет Савичи в этот раз уже навсегда.



Совершает долгий мучительный путь в Брестскую область в надежде найти там временное пристанище. Однако вскоре в связи с наступлением большевиков ему пришлось искать более безопасное место у родственников на Любельщине, откуда несчастные беженцы вынуждены были уходить дальше за Вислу. Этот период бед и испытаний Войниллович подробно описывает в своих воспоминаниях. Блуждая по чужим углам, он дождался заключения русского трактата. Это был удар, который даже такой настрадавшийся человек еле смог выдержать. Речь идёт не столько о его материальных потерях, всё имущество которого осталось по ту сторону границы. Речь шла о моральном крахе, об утере плодов многолетнего кропотливого труда. Это была потеря для многотысячного населения Белоруссии, потеря связи с культурой прошлых поколений. И не удивительно, что все страницы воспоминаний проникнуты большой горечью и болью, которые вызвали несколько острых выступлений в прессе. Резолюция от 29 апреля 1921 г. в Совете Минского Сельскохозяйственного Товарищества явилась подобием политического завещания уважаемого Председателя Товарищества. Это был тяжелый обвинительный акт не только против людей, которые подписывали Риж-ский трактат, Сейма, который ратифицировал этот акт, но и против всего сообщества, которое санкционировало этот новый раздел страны. И вполне оправданно с возмущением подчеркивал, что «при решении судьбы Восточных Земель ни одного представителя этих земель не пригласили, даже не допустили в качестве советника или наблюдателя».

Рижский трактат, оставляя вне родины Пузово и Савичи, лишил Войнилловича средств

к существованию и обрек на вечное скитание. Располагая очень незначительными средствами и не желая пользоваться помощью родственников, судьба которых оказалась более щедрой, он остановился в г. Быдгощи, в котором нашли приют многие потерпевшие крушение в жизни. Войниллович и здесь не прекращал общественной деятельности: организовал опекунство над соотечественниками, волей судьбы оказавшимися в Быгдощи. Приводил в порядок свои воспоминания, вёл обширную переписку с прежними товарищами по совместной работе, которые были разбросаны по всей Польше. Хотя волею судьбы он оказался в роли наблюдателя за развивающимися событиями, наблюдателя, иногда остро реагирующего на происходящее, Войниллович сохранил, несмотря на приближающиеся 80 лет, ясность ума, правильное суждение о вещах и юношескую способность реагирования на житейские ситуации, которые происходили в возрожденной Речи Посполитой в 1921-1928 годах.

Приходится сожалеть о том, что большие способности, знание и опыт Эдварда Войнилловича не были востребованы деятелями Польши на благо общества. Его основательное знакомтво с аграрной политикой, сервитутскими делами, трудными и запутанными национальными и религиозными вопросами на Восточных землях выдвигало его кандидатом на роль компетентного, знающего эксперта и советчика в этих намерениях и планах государственной важности. Но он оказался на обочине, ему не было дано служить Отечеству ни советом, ни богатейшим опытом.

Возможно, это последнее и было главным препятствием к привлечению его к политической деятельности. Он принадлежал к иной эпохе, к иному поколению, слишком много в нем было от того мощного дуба, основательно укоренившегося в родной земле и противостоящего проносящимся ураганам, не было в нём ничего от гибкой придорожной вербы, склоняющейся при незначительном ветерке.

Обладая выдержкой, спокойно нёс он свой крест. Тешил себя уверенностью, что **«хорошая мысль, содеянное добро, даже если не дают своих плодов немедленно – возможно когда-то принесут свои плоды, как зёрна пшеницы в гробницах фараонов, и дадут всходы. Тогда припомнят тех, которые когда-то были сеятелями...».**

«Такие обломки судьбы (истории), как в настоящее время и я, обычно гибнут в забвении даже прежде, чем уйдут из жизни (покинут этот мир); иное время требует и людей иных, и хотя, в свои 78 лет еще вполне способен заниматься общественной деятельностью – совсем не удивляюсь тому, что я оказался на обочине, так как мне трудно было бы пригнуться, приспособиться к существующим настроениям. Я никогда не смог бы изменить прошлым идеалам. (Срав. Ал. Ледницкий, Э. Войниллович. «Њwiat». 26.1928 г.) А люди у нас еще не пришли к убеждению, что, возводя новое здание нет смыла сохранять старый фундамент» (Там же).

Одной из черт, характеризующих Эдварда Войнилловича, как политического деятеля, был его реализм. Его не столько интересовали далеко идущие идеи, программы, такие, как задания существующей политики и практической жизни, как было сказано. Эти вопросы имели для него намного меньшее значение, чем целенаправленная и всегда приносящая успех тактика. Он был, прежде всего, выдающимся тактиком, и всем его начинаниям в общественной жизни почти всегда сопутствовал успех.

Особенно это проявлялось в отношениях с российским правительством. Он хорошо знал психологию русского бюрократа. Не выслуживаясь, снискал себе такое доверие в бюрократической среде, что ему не могли отказать, и он всегда умел осуществлять большинство своих проектов.

К Эдварду Войнилловичу вполне можно отнести прекрасные слова Станислава Тарновского: «Владея ситуацией, состоянием действительности лучше, чем кто-либо из современников, знал о том, что, как человек является не только духом, но и телом, так и Родина (Отечество) – это не только сама идея, абстракция, чувство, любовь, но она должна тоже иметь своё материальное выражение, материальную жизнь и условия для этой жизни. Знал и понимал, что Родина обязательно должна быть также и материальной и, если кто хочет дойти до того, как должно быть, надо исходить из того, что имеется – вот это в двух словах тайна его политики. А её средства – это бесконечный труд вокруг корней дерева: обработать землю, вдохнуть в неё жизнь, очистить от сорняков. Цветы и плоды даст Бог в своё время, если человек сделает всё, что он обязан сделать».

Для двух поколений Войниллович был великим примером в общественном служении и любви к Родине. Для Минщины. Даже больше всего для литовско-белорусской губернии был тем, чем в своё время для Конгрессувки Андрей Замойский, для Галиции – Леон кн. Сапега, Познаньского – генерал Хлоповский, Неголевский и Др. Марцинковский, для южных окраин Роман кн. Сангушко – личности выкованыя из одного ценного металла, воплощение гражданского служения Родине.

Было в нём много из этого ценного металла, из которого были отлиты души близких ему по происхождению Рейтана и Костюшки. Был, как правильно заметил в посмертных воспоминаниях Ян Лютославский «факелом, которая светил особым моральным пламенем». Был гордостью и славой Северо-Восточного Края.

*Ксёндз Владислав Завальнюк*

*Продолжение следует*